# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 41 (55) 24—30 сьнежня 1993 года Кошт 70 рублёў

**САЦЫЯЛЬНЫ ЗАКАЗ.** Назіраючы за Лукашэнкам, бачу руку Кебіча.

**НАДЗЕІ РАСТАПТАЛІ.** Я пакідаю гэтую краіну, спадзяюся, што назаўжды.

Трэба рабіць сваю справу. **АБ ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСАЎ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ.**

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## Пастырскае слова ксяндза Біскупа Аляксандра Кашкевіча й віншаваньні на нараджэньне Хрыстова й надыходзячы 1994 год

Умілаваныя ў Хрысьце Браты і Сёстры!

«Хрыстос нарадзіўся, шануймы ўвасобленае Слова» — моліцца Касьцёл у Літургіі Гадзін у Сьвятую Ноч Божага Нараджэньня. Такім чынам ён абвяшчае радасную праўду аб нараджэньні Хрыста з Дзевы Марыі, і адначасова агалошвае, што гэта для нас Бог нарадзіўся, для нашага збаўленьня.

Расчуленыя, набліжаемся мы сёньня да Жлобка Хрыстовага. Кожны з нас можа сказаць: «Гэта сталася дзеля мяне». Для нас Бог прыйшоў, дзеля чалавека нарадзіўся — дзеля кожнага чалавека. А калі Хрыстос нарадзіўся дзеля кожнага, нельга нам не аб кім забываць, а асабліва памятаць пра хворых і бедных, якіх так лёгка можна пакрыўдзіць. Нельга таксама ні да каго мець у сэрцы крыўду, бо гэты дзень — дзень духоўнага яднаньня і параднеьньня.

У сьвяты дзень Божага Нараджэньня складаю вам усім, умілаваныя Браты і Сёстры, самыя гарачыя жаданьні. Выказваю іх словамі сьв. Леона Вялікага: «Сёньня нарадзіўся нам збаўца, радуймася ўмілаваныя! Няма месца на смутак, калі родзіцца жыцьцё і калі зьнік страх перад нішчэньнем сьмерці, прыходзіць радасьць з абяцаньня вечнага жыцьця. Гэтая радасьць нікога не абмінае, усе маюць аднолькавую нагоду, каб радавацца, бо наш Пан нішчыць грэх і сьмерць... Няхай весяліцца сьвяты, бо недалёка яму да пальмы Перамогі, няхай радуецца грэшнік, бо яму даруецца прабачэньне, няхай вяртаецца да жыцьця недаверак, бо да жыцьця ён пакліканы».

Божае Нараджэньне прыносіць радасьць. Дзякуючы таму, што Бог стаўся чалавекам — належаць да людзей ёсьць гонар. Кожны чалавек, нават самы здэградаваны, і паніжаны ўласнаю бядою, можа вярнуцца да сябе і адшукаць годнасьць. Заўсёды ён можа пайсьці да Бэтлеем і ўсьвядоміць сабе, што мае такую самую натуру, цела і душу, у якой увасабіўся Сын Божы.

Углядаючыся ў Бэтлеемскі Жлобак і трымаючы белую аплатку ў руцэ, я зьвяртаюся да ўсіх, а асабліва да тых, каторыя зьняволеныя алкагалізмам і іншымі дрэннымі звычкамі і не бачаць мажлівасьці вызваліцца, і прашу: убачце ўласную годнасьць, падыміце слабыя плечы, паверце ў моц чалавечнасьці, якую вам прынёс Хрыстос. Прыміце праўду, што гэта вам Бог Айцец хоча паўтарыць словы, скіраваныя да Свайго Адзінага Сына: «Ты Маім Сынам, я Цябе сёньня нарадзіў» (Габр. 1,5). Божае прабачэньне ёсьць новае нараджэньне. Жадаю Вам такога нараджэньня.

Таксама жадаю Вам, Браты і Сёстры, няхай кожны з вас расьце духоўна з таямніцы Божага Нараджэньня ў сваёй чалавечнасьці і ў сваім хрысьціянстве. Няхай Бог, які стаўся чалавекам, будзе натхненьнем і дапамогаю да ўсякага дабра і да барадзьбы са ўсякім злом.

Няхай Божае Дзіця Благаславіць Вам і абдорыць усімі ласкамі:
здароўем тых, каму яго бракуе;
радасцю — засмучаных;
самотныя і пакінутыя няхай знойдуць у іншых зразуменьне і сяброўства;
да збалелых сэрцаў няхай прыйдзе спакой;
бацькі няхай цешацца сваімі дзецьмі;
для моладзі Хрыстос няхай будзе Шляхам і Умацненьнем.
З Хрыстосам, які прыходзіць, няхай пачне жыць у нас праўда, даброць, дабразычлівасьць і любоў — каб і ў нас нарадзіўся Бог.

**На радаснае перажываньне Сьвятаў Божага Нараджэньня і на ўвесь Новы Год 1994 — ад усяго сэрца Благаслаўляю ўсіх У Імя+Айца+Сына і+Духа Сьвятога.**

**Біскуп Аляксандр Кашкевіч, Ардынарый Гарадзенскій.**

## Папярэджаньне ўраду

15 сьнежня а 15-й гадзіне ў Горадні з ініцыятывы прафкамаў 10 гарадзкіх прадпрыемстваў адбыўся мітынг. Адкрыў яго старшыня аблсаўпрафу В. Кобрын. Выступленьне старшыні гарадзкой Рады БНФ К. Жыня прысутныя ўхвалілі воплескамі. Намесьнік старшыні прафкаму аб'яднаньня «Азот» Ул. Буздалін сказаў нават вершам, які пачынаўся словамі «Страна в агонии, в развале», а скончыўся заклікам «Воссоздать Беларусь». Верш быў настолькі апэратыўна напісаны, што ў ім нават узгадваўся ўчарашні скандальны выступ у Вярхоўным Савеце дэпутата Лукашэнкі.

Наогул прамовы былі рознымі. Адны выкрывалі ўрад з парлямэнтам, а другія, як зваршчык аб'яднаньня «Хваля» Езерскі, зрабілі закіды самім гарадзенцам. Люду на мітынгу было небагата, некаторая прыйшлі нападпітку. «Урад, канешне, кепскі,— сказаў сп. Езерскі,— цэны цэлы час падвышае. Але ж як яму не падвышаць, калі ўсе маўчаць»?! Адзін з прамоўцаў, які таксама выступаў па-беларуску, прапанаваў наступны рэцэпт ад цяжкасьцяў — аб'яднацца ўсім у Народным руху Беларусі, які, як вядома, выступае супраць яе незалежнасьці й сувэрэнітэту. «Не в дугу» прамовіў і сьлесар Філін: «Произошла смена курса нашей Родины. Нужно немедленно восстановить Советский Союз».

Ахвотных выступіць было вельмі багата, але ім адмовілі, а мітынг арганізавана і ў тэрмін скончылі. Удзельнікі прынялі зварот з сацыяльна-эканамічнымі патрабаваньнямі да ўрада й ВС. Калі іх ня выканаюць, дык прафсаюзы запатрабуюць іхняй адстаўкі й распачнуць забастоўку.

**П. ГРЭЦКІ.**

## ВЕСТКІ З ЛЕТУВЫ

### «Чорная» на зьмену «каляровай»

Пасьля прыняцьця ўрадам Летувы мераў, якія абмяжоўваюць экспарт і рээкспарт каляровых мэталаў, з мая бягучага года ў 10 разоў скарацілася колькасьць крадзяжоў гэтага тавару. Але «каляровую» ліхарадку зьмяніла «чорная»: павялічылася колькасьць раскраданьняў вырабаў з чорных мэталаў. У адным раёне нават скралі канструкцыі будуючагася маста.

Толькі ў гэтым годзе паліцыя зафіксавала 258 выпадкаў крадзяжоў чорных мэталаў у буйных памерах. Ад яе паступіла прапанова, каб урад распаўсюдзіў абмежаваньні на гандаль імі, адпаведна абмежаваньням, прынятым у адносінах да каляровых.

### За некалькі хвілін у іншую краіну

З 1 сьнежня паштовыя пераводы ў суме да 10 000 даляраў з Летувы за некалькі хвілін могуць дасягнуць 65 краін на пяці кантынэнтах. Гэта стала магчымым пасьля заключэньня пагадненьня паміж Летувіскім ашчадным банкам і амэрыканскай фірмай **«Western Union»** аб падключэньні да міжнароднай разьліковай сеткі гэтай кампаніі, якая мае 22.500 агэнцтваў у розных краінах.

Накіроўваючы грашовы пералік з Летувы, кліент плоціць даляры ЗША, а атрымальніку выдаюцца грошы ў нацыянальнай валюце.

**Па матэрыялах летувіскіх газэт падрыхтаваў**

**А. ДУК.**

### Ад сэсіі да сэсіі...

Сярод студэнтаў здаўна існуе звычай прымаць у сваё асяроддзе студэнцкі маладняк. Гэтую традыцыю перанялі й студэнты беларускага аддзяленьня Віленскага пэдагагічнага унівэрсітэту. Першая такая імпрэза адбылася летась, а сёлета гэта ўжо працяг традыцыі. Хрышчэньне першага курсу прайшло 25 лістапада. У беларускае студэнцкае асяроддзе было прынята яшчэ 12 студэнтаў. Сярод іх 5 хлапцоў і 7 дзяўчат. Гэты першы курс аказаўся значна багацейшы на моцную палову, чым папярэднія. Паколькі яны — будучыя філолагі, то й патрабаваньні да іх адпавядалі абранай спэцыяльнасьці. Ім давялося скласьці верш, прасьпяваць песьню. Быў конкурс і на выяўленьне мастацкіх талентаў. Прымаўшым хрышчэньне было запрапанавана намаляваць партрэты старэйшых калегаў з трэцяга курсу. Толькі пасьля ўсіх гэтых «пакут» апошнія прыйшлі да высновы, што можна «пахрысьціць» іх у студэнты, прыняць у паўнапраўныя сябры калектыву. Што й было зроблена. Скончылася гэтае сьвята традыцыйнай супольнай гарбаткай з пірагом пры зьзяньні сьвечак.

**«ЭХО ЛИТВЫ».**

## Беларусы пратэстуюць і патрабуюць ад Віленскай гарадзкой рады вярнуць свае дамы

### *ЗАЯВА*

### *Рады Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве*

Таварыства Беларускай культуры на працягу 4 гадоў рабіла ўсемагчымыя намаганьні, каб літоўскія ўлады перадалі пад беларускі культурны цэнтр тры дамкі ў Вільні па вул. Жыгімонта, 12, якія ў 1930-х гадох на грошы, ахвяраваныя княгіняй М. Радзівіл і беларускай грамадзкасьцю, купілі беларускія айцы Марыяны з Друі. Цяпер дамкі знаходзяцца ў аварыйным стане. А тады гэта быў беларускі асяродак. Тут жылі й дзейнічалі такія волаты беларускай культуры й нацыянальнага адраджэньня, як ксяндзы А. Станкевіч, Я. Германовіч, В. Гадлеўскі, Ч. Сіповіч, У. Чарняўскі і іншыя.

Улічваючы ўсё гэта, Прэзыдыум гарадзкой Рады пастановай № 21 ад 23.10.1990 г. вырашыў перадаць дамкі ТБК, а адзін з дамкоў у хуткім часе быў прыняты на баланс Таварыства.

У далейшым на гэтыя дамкі заявіла свае прэтэнзыі Летувіская Кангрэгацыя Марыянаў сьв. Юргіса. Атрымаўшы іншы адпаведны будынак, Кангрэгацыя зьняла свае прэтэнзыі на дамкі пры вул. Жыгімонта, 12 — на карысьць Таварыства Беларускай Культуры. ТБК пачало тэрмінова рабіць рамонт памяшканьняў, каб яшчэ сёлета Каляды адсьвяткаваць у сваім цэнтры.

Але ўлады вырашылі па-другому. Бяз ведама і ўзгадненьня з ТБК 23 лістапада г.г. гарадзкая Рада прыняла рашэньне за № 153 — перадаць пляц з дамкамі амэрыканскаму бізнэсмэну, летувісу па паходжаньні, пад будову камэрцыйнага цэнтру.

Таварыства Беларускай Культуры катэгарычна ня згодна з рашэньнем гарадзкой Рады.

**Старшыні Гарадзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў спадару Сямёну Домашу.**

**Старшыні Гарадзенскага гарадзкога Савета народных дэпутатаў спадару Гэнрыху Крупенку.**

**Начальніку абласнога ўпраўленьня ўнутраных спраў Гарадзенскага аблвыканкама спадару Фёдару Гудзею.**

**У рэдакцыю газэты «Пагоня».**

**Шаноўнае спадарства!**

Стан грамадзкага парадку ў абласным цэнтры — Горадні рэзка пагоршыўся.

Асабліва рызыкоўна стала хадзіць па вуліцах горада пасьля 21 гадзіны вечара. Хуліганства, рабаўніцтва, згвалтаваньні сталі «звычайнай справай». Злачынцы пачуваюцца ў гэты час «гаспадарамі» у горадзе. Зьдзекі над людзьмі даходзяць да такой жорсткасьці, што многія з ахвяр трапляюць у шпіталі.

Так, на мінулым тыдні дэпутат Гарадзенскга гарадзкога Савета Антон Сьцяпура, сябра БНФ «Адраджэньне», член апазыцыі, вяртаўся дадому пасьля працы. На вуліцы Ліможа, м-н Дзевятоўка, яго сустрэлі двое незнаёмых і папрасілі закурыць. Паколькі Сьцяпура не курыць, ён ветліва ім адмовіў. Незнаёмцы зьбілі яго з ног. Пачалі біць нагамі па галаве і целу і білі да той пары, пакуль Сьцяпура не страціў прытомнасьць. Тым жа вечарам Антон Сьцяпура хуткай дапамогай дастаўлены ў клінічны шпіталь у рэанімацыйнае аддзяленьне, дзе і дагэтуль знаходзіцца ў цяжкім стане.

Абласная канфэрэнцыя БНФ «Адраджэньне» зьвяртаецца да Вас, шаноўныя кіраўнікі вобласьці, горада і міліцыі, з патрабаваньнем неадкладна ўзбудзіць крымінальную справу па гэтаму факту нападу на дэпутата гарадзкога Савета.

Мы ўзрушаны гэтай зьвярынай жорсткасьцю і патрабуем ад ворганаў улады прыняць рашучыя меры адносна крымінальнай злачыннасьці ў Горадні і вобласьці.

Прапануем арганізаваць сустрэчу з прадстаўнікамі БНФ «Адраджэньне», БСДГ і апазіцыі з кіраўніцтвам вобласьці, горада і міліцыі па гэтых пытаньнях у спрыяльны для ўсіх час.

**По даручэньню абласной канфэрэнцыі**

**Кастусь ЖЫНЬ,**

**старшыня гарадзенскай гарадзкой Рады, сябра сойму БНФ «Адраджэньне».**

**11 сьнежня 1993 г.**





# *ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА*

## Галоўны вораг — расейскі імпэрыялізм

### Выступ З. ПАЗЬНЯКА на V зьезьдзе Руху ў Кіеве 11. XII.1993 г.

Паважаныя спадарыні і спадары! Шаноўныя дэлегаты зьезду! Дазвольце перадаць вам сардэчнае прывітаньне ад Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

Мае развагі будуць пра Беларусь. Але вы ўбачыце, што тым самым размова ідзе й пра Украіну, бо ў нас падобныя праблемы, падобныя задачы, падобная бяда й агульны вораг — былая камуністычная намэнклятура й імпэрскія сілы Расеі.

У жніўні 1991 года, калі пасьля правалу камуністычнага путчу ў Маскве мы дамагаліся незалежнасьці і спынілі дзейнасьць КПСС, тады не ўдалося дасягнуць вельмі важнага — правесьці новыя выбары і адхіліць намэнклятуру ад улады. У Беларусі засталіся ва ўладзе стары Вярхоўны Савет, стары камуністычны ўрад, сфармаваны яшчэ на бюро ЦК КПСС, старыя Саветы і ўся савецкая намэнклятура, якая не на дух не ўспрымала дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, тая самая намэнклятура, што адмовілася ад беларускай мовы й ўгодніча перад Масквой. І вось гэтай самай намэнклятуры нечакана для яе самой раптам за адзін дзень і адну ноч звалілася ў рукі незалежная дзяржава, з якой яны не ведалі што рабіць.

І яны пачалі яе рабаваць, раскрадаць, перараьзмяркоўваць дзяржаўную маёмасьць у сваю прыватную ўласнасьць. За два гады яны да рэшты разваліл эканоміку, паралізавалі фінансава-крэдытную сістэму, раскралі маёмасьць на мільярды даляраў, паставілі пад пагрозу нашу незалежнасьць і само існаваньне беларускай дзяржавы. Яны ўступілі ў змову з расейскімі камуністамі — групамі Хазбулатава, Руцкога, Чарнамырдзіна і рыхтавалі ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Правал кастрычніцкага камуністычнага мяцяжу ў Маскве часткова прыпыніў гэтыя працэс.

Унікальнасьць посткамуністычнай сітуацыі на Беларусі ў тым, што намэнклятурная ўлада, якая ацалела як рэліктавае ўтварэньне, выступае за ліквідацыю самастойнасьці ўласнай дзяржавы, выступае супраць рынкавых рэформаў, супраць дзяржаўнасьці беларускай мовы, супраць нацыянальнага дзяржаўнага сьцяга і герба, якія раней пад страхам яна вымушана была прыняць і зацьвердзіць. Гэта зьява фэнамэнальная, але адначасна і заканамэрная. У камунізма няма бацькаўшчыны і няма народа. Гэта крымінальная ўлада. Тут псіхалогія крымінальнай ахлакратыі, якая зьяўляецца сутнасьцю намэнклятурнай палітыкі: красьці, ашукваць, прыстасоўвацца, ілгаць і зноў красьці. Вось і ўся палітыка.

Улада для іх — гэта іхняя прыватная ўласнасьць, а Бацькаўшчына — тавар, разьменная маёмасьць, якой яны гатовыя ў любы час заплаціць за ўратаваньне свай скуры.

Справа дайшла да таго, што беларуская намэнклятура пачала здаваць Расеі за даўгі нацыянальныя нафтаперагонныя заводы і нацыянальную народную ўласнасьць.

Каб утрымаць за сабой уладу, яны пойдуць на любую подласьць, на любое крывавае злачынства. Посткамуністычная гісторыя краінаў былога СССР гэта добра падцьвярджае. Мы зрабілі для сябе вывады з гэтай гісторыі.

Першая выснова. Нельга супрацоўнічаць з камуністычнай намэнклятурай у галіне дзяржаўнага будаўніцтва і палітыкі. Гэта беспэрспэктыўна, амаральна і супярэчыць прыродзе рэчаў. Пазітыўнага выніку не будзе.

Беларускі Народны Фронт адразу са жніўня 1991 года стаў у жорсткую апазіцыю да намэнклятуры і не зрабіў памылкі, не верыў ні на ёту сваім «краўчукам», не супрацоўнічаў з імі.

Другая выснова. У нармальным здаровым грамадстве не павінна быць ніякіх камуністычных арганізацыяў. Яны ствараюць пагрозу людзям, дзяржаве і грамадству. Дзейнасьць іх павінна быць забароненая. Метастазы камунізму павінны быць выдаленыя. Тым больш пасьля таго жахлівага гэнацыду, які камуністы тварылі ў нас з 1917 года, і таго тэрарызму і нянавісьці, якія яны праважкуць цяпер.

Трэцяя выснова. Ніякай дэмакратыі, ніякіх рынкавых рэформаў і ніякага станоўчага дзяржаўнага будаўніцтва ня будзе, пакуль застаецца ўлада саветаў. Саветы — гэта разбуральныя структуры, прыдуманыя бальшавікамі. Саветы трэба ліквідаваць рашуча, хутка і безваротна.

Чацьвёртая выснова. Зло павінна быць пакаранае. Інакш яно робіцца нормай. Калі ў Беларусі стане дэмакратычная ўлада і калі да яе будзе мець дачыненьне Народны Фронт, тады ў краіне першым чынам будзе наведзены парадак.

Усе антыдзяржаўныя дагаворы і акты, прынятыя нашым тройчы нелегітымным Вярхоўным Саветам, ня будуць прызнаныя. Дзяржаўныя прадпрыемствы, раскрадзеныя намэнклятурай, перададзеныя Расеі і карумпаваным асобам, будуць нацыяналізаваныя, вернутыя дзяржаве і ўласьнікам. Народная ўласнасьць знойдзе сваіх гаспадароў, а жулікі і крымінальнікі — сваю турэмную камору.

Пятая выснова. Беларусь павінна выйсьці з СНД. Рашуча і цьвёрда. Наш шлях — прыклад Балтыйскіх краінаў. Нельга быць ні ў якіх саюзах, ні ў якіх садружнасьцях разам з Расеяй. Нельга даваць ніякіх фармальных повадаў для прымяненьня ў дачыненьні да нашай краіны расейскай імпэрскай палітыкі. Яна пагражае нашаму нацыянальнаму існаваньню.

Шостая выснова. Рынкавыя рэформы трэба пачынаць з уладкаваньня фінансава-крэдытнай сітэмы і ўвядзеньня нацыянальнай валюты.

Сёмая выснова міжнароднага кшталту. Павінна быць балтыйска-чарнаморская каардынацыя.

Усе краіны, разьмешчаныя паміж Балтыйскім і Чорным морамі, паміж Расеяй і Польшчай, маюць падобныя ўнутраныя задачы і агульную зьнешнюю пагрозу з боку імпэрскіх сілаў Расеі.

У гэтых гэапалітычных умовах кожнаму ў адзіночку, ды яшчэ знаходзячыся ў СНД, супрацьстаяць імпэрскай палітыцы вельмі цяжка. Мы — балтыйска-чарнаморскія дзяржавы, проста абавязаны каардынаваць свае дзеяньні паміж сабой і нашы дачыненьні з усходам. Нашы ўсходнія межы павінны стаць аднолькава цьвёрдымі, а межы між сабой — мяккімі. Мы павінны стварыць процівагу, баланс паміж усходам і захадам, калі хочам выжыць як незалежныя дзяржавы ў гэтым падзеленым сьвеце. Ва ўсіх нас ёсьць агульная гэапалітычная ніша. Мы павінны яе заняць, як толькі дэмакратычныя сілы і сілы незалежнасьці перамогуць ў нашых краінах.

Дэмакратычныя сілы ў Беларусі цяпер дамагаюцца нечарговых выбараў і адстаўкі антынацыянальнага ўраду, які праводзіць акупацыйную прарасейскую палітыку. Галоўным нашым апанентам на выбарах будзе, як гэта, магчыма, не здасца для вас нечаканым, расейская імпэрская разьведка і тыя палітычныя ўтварэньні, арганізацыі-фантомы і структуры, якія яна стварыла і кантралюе. А кантралюе яна практычна поўнасьцю ўрад (Савет Міністраў), армію, памежныя і ўнутраныя войскі, камуністычныя і ватэранскія арганізацыі, часткова КДБ. Робіцца ўсё, каб разбурыць нашу дзяржаву, дыскрэдытаваць сувэрэнітэт, задушыць адраджэньне нацыянальнай культуры, паралізаваць эканоміку.

Сілы нацыянальнай незалежнасьці, дэмакратыі, дзяржаўнага разьвіцьця і ўвогуле нашы народы робяць намаганьні супраць агульнага ворага. Мы перажываем цяжкі час. Але я не сумняваюся, што мы пераможам.

Галоўныя перашкоды—старая намэнклятурная ўлада і расейскі імпэрыялізм. Яны ня вечныя ўжо самы па сабе. Гэтыя перашкоды абавязкова абваляцца. Трэба толькі набліжаць гэты час. І тады пачнецца новы ўздым—уздым спакойнага стваральнага і эфектыўнага разьвіцьця нашых вольных краінаў і народаў.

Набліжайма ж гэты сьвяты час! Багаслаўляйма гэты добры шлях! Слава Украіне! Жыве незалежная Беларусь!

## ЗВАРОТ

### Беларускага Незалежнага Прафсаюза да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб сацыяльным страхаваньні

Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь прынята Пастанова ад 10 чэрвеня 1993 года аб стварэньні Фонда сацыяльнай абароны, які павінен знаходзіцца ў распараджэньні дзяржавы.

Савет Міністраў прыняў незаконную пастанову аб перадачы сродкаў Фонда ў распараджэньне Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі, агаварыўшы, што гэтымі сродкамі ФПБ будзе распараджацца толькі да IV квартала 1993 года.

У парушэньне Закона «Аб прафэсіянальных саюзах» артыкула 4-га Саўмін вядзе перамовы з ФПБ у Пагадняльнай камісіі аб перадачы часткі сродкаў Фонда на 1994 год зноў жа ў распараджэньне Фэдэрацыі.

Прадстаўнікі нашага прафсаюза ў Пагадняльную камісію былі вылучаны, але на перамовы не выкліκаліся. Гэтым зноў парушаны артыкулы 4 і 6 Закона «Аб прафэсіянальных саюзах». Лічым, што прынятыя Вярхоўным Саветам Законы й Пастановы павінны няўхільна выконвацца.

Вярхоўны Савет абавязаны прыняць рашэньне аб перадачы ўсіх сродкаў Фонда сацыяльнага страхаваньня й Пэнсіённага фонда ў Фонд сацыяльнай абароны (ФСА). Усімі сродкамі на аздараўленьне абавязаны распараджацца дзяржаўныя органы ФСА.

**Нашы прапановы:**

1. Сродкі ФСА, якія выдзяляюцца на аздараўленьне й адпачынак працоўных, павінны знаходзіцца ў распараджэньні прадпрыемстваў, устаноў, аганізацый і кантралявацца прафсаюзамі, астатнія — у ФСА.

2. Выключаюцца Фонды сацыяльнай абароны.

3. Неабходна правесьці перарэгістрацыю ўсіх членаў прафсаюзаў з прадстаўленьнем натарыяльна засьведчанай колькасьці членаў прафсаюзаў.

4. Уся маёмасьць санаторна-курортнага, культурна-масавага прызначэньня павінна быць перададзена ў распараджэньне дзяржавы пад кантролем прафсаюзаў.

5. Калі аздараўленьне й адпачынак пакідаюцца ў распараджэньні прафсаюзаў, павінны быць адкрыты бягучыя рахункі ў ФСА дзеля ўсіх рэспубліканскіх прафсаюзаў.

Усе нашыя прапановы служаць для нармальнага перахода на рынычныя, сацыяльна арыентаваныя адносіны. У далейшым усе пытаньні аздараўленьня й адпачынка працоўных павінны вырашацца праз пэрсаніфікаваныя й іншыя фонды сацыяльнага забесьпячэньня.

## ЗАЯВА Кангрэса Дэмакратычных Прафсаюзаў Беларусі

Абмеркаваўшы сацыяльна-эканамічнае становішча ў Рэспубліцы Беларусь, Кангрэс Дэмакратычных Прафсаюзаў Беларусі адзначае, што ў цяперашні час сытуацыя ў краіне дасягнула той небясьпечнай рысы, калі магчымы сацыяльны выбух.

Вярхоўны Савет, Савет Міністраў й Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь не ЗМАГЛІ прасунуцца ні на крок ў вобласьці эканамічных рэформаў. Замест рыначных пераўтварэньняў адбываецца ўмацаваньне планава-размеркавальных мэханізмаў на ўсіх узроўнях выканаўчай улады.

Манапольны ўласьнік у асобе Дзяржавы ня здольны ва ўмовах вольнага рынку эфэктыўна выкарыстоўваць вытворчыя магутнасьці, праводзіць неабходную структурную перабудову эканомікі. Заявы кіруючай эліты, што характэрызуюць сытуацыю ў Рэспубліцы як стабільную, у сапраўднасьці можна разглядаць як стабільна падаючую ў эканамічную бездань, без рэальнай надзеі на хуткае прыпыненьне гэтага падзеньня.

У той час, калі ў рэспубліках Балтыі і Расеі рыначныя адносіны дазваляюць стабілізаваць эканоміку, даюць прадпрыемствам магчымасьць самім ажыцьцяўляць эканамічныя пераўтварэньні, што вядзе да напаўненьня спажывецкага рынка таварамі, зьніжэньня ўзроўня інфляцыі, стабілізацыі цэнаў, зьніжэньня беспрацоўя і павышэньня жыцьцёвага ўзроўня насельніцтва, то на Беларусі нават няма зрухаў у гэтым напрамку. Прынятая сістэма падаткаабкладаньня даводзіць да галечы прадпрыемствы. Карупцыя, злачыннасьць і хабарніцтва разьядаюць грамадзтва. Праваахоўныя органы, якія фінансуюцца з бюджэта, гэта значыць, за кошт падаткаплацельшчыкаў, абараняюць тую вузкакланавую партыйна-дзяржаўную намэнклятуру, якая пры патуральні Вярхоўнага Савета і Саўміна працягвае раскраданьне агульнанароднай уласнасьці. У той жа час прымаемыя законы НАКІРАВАНЫЯ на тое, каб канчаткова замацаваць адчужэньне пераважнай большасьці насельніцтва Рэспублікі ад створаных на працягу некалькіх пакаленьняў багацьцяў.

Кангрэс Дэмакратычных Прафсаюзаў Беларусі патрабуе ад Вышэйшага заканадаўчага воргана Рэспублікі:

1. На 13-й сэсіі зацьвердзіць тэрміны правядзеньня выбараў у прадстаўнічыя органы ўлады не пазьней за люты-сакавік 1994 года.

2. Маючыя адбыцца выбары павінны прайсьці па новаму дэмакратычнаму закону, які павінен гарантаваць роўныя правы ўсім грамадзянам Рэспублікі Беларусь на выбарах, уключаючы прамое выбарчае права.

3. Неадкладна прыняць рашэньне аб роспуску цяперашняга кабінэта міністраў, стварыўшы на перыяд падрыхтоўкі і правядзеньня выбараў дзеяздольны ўрад, сфарміраваўшы яго на прынцыпах прафэсіяналізму.

4. На час перадвыбарнай кампаніі даць роўны доступ усім палітычным сілам, што ўдзельнічаюць у выбарах, да сродкаў масавай інфармацыі з мэтай ажыцьцяўленьня выбаршчыкамі сапраўды дэмакратычнага выбару.

5. Прыняць новую Канстытуцыю Канстытуцыйнай асамблеяй.

Мы зьвяртаемся да ўсіх тых, хто не жадае далей пакорліва пераносіць усе гэтыя незаслужаныя цяжары, падтрымаць нас у нашых патрабаваньнях.

**Ваша падтрымка — гэта наша моц.**





# *ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА*

## Карфагэн павінен быць разбураны?

«Дзіўныя справы твае, Божа!»,— так і просіцца гэты знакаміты выраз у радок, калі пачынаеш аналізаваць віратлівае кола парлямэнцкага жыцьця. Тры бурныя дні ў Авальнай зале, якія, нібы зімовыя прыцемкі, згусьціліся над народнымі абраньнікамі.

Дзіўна атрымліваецца: пасьля шматлікіх фактаў аб карупцыі, «прыхватызацыі» і злоўжываньнях службоўцаў рознага ўзроўню — ад кіруючых асобаў Саўміну да загадчыкаў аддзелаў выканкамаў, у памяць спакваля добра-такі ўрэзалася думка, што галоўныя мафіёзі на Беларусі — сьпікер парлямэнту С. Шушкевіч і прадстаўнікі апазіцыі, бо прыведзеныя прыклады былі скампанаваны вельмі ўжо няўдала (мо наўмысна?) — Перамешаны ў адну кучу. Даказанае і сумніцельнае, праверанае і спрэчнае.

Хто усё ж выдаваў шматлікія ліцэнзіі на вываз за мяжу дэфіцытнага паліва і каляровых мэталаў, ствараў камэрцыйныя структуры пры воргаснах улады, браў хабар, ільготныя крэдыты? Апазіцыя ці ўсё ж той, хто стаіць у кіраўніцтве ўлады. Менавіта яны, адказныя работнікі, кіруюць сёньня эканомікай. Вось туды і патрэбна было накіраваць высілкі камісіі, а што атрымалася? Старшыня камісіі амаль з дзіцячым захапленьнем тэмпэраментна зачытваў прозьвішчы замежных ваяжораў, як быццам справа ідзе аб мільённых хабарніцтвах, а не аб звычайных мерапрыемствах, якія для некаторых кіраўнікоўпрамыслоўцаў сталі амаль штодзённай справай.

У ходзе бурных спрэчак спадар Лукашэнка, як мне здаецца, усё ж раскрыў свае карты. Яго думка прагучала прыкладна так: «Вы (апазіцыя) глыбока памыляецеся, калі разьлічваеце маімі рукамі пасадзіць на лаву падсудных кіруючую намэнклатуру. Дудкі, спадары. Галоўная мэта — С. Шушкевіч і апазіцыя, якая хаця і ганіць сьпікера, але сапраўды разам з ім».

Можа, я не так зразумеў словы паважанага Аляксандра Рыгоравіча? Час пакажа.

Большасьць жа ў Вярхоўным Савеце, здаецца, толькі гэтага і чакала, бо з упартасьцю рымскага сэнатара Катона даўно ўжо лічыць, што «Карфагэн (Шушкевіч) павінен быць разбураны (зьняты)! Не хапае толькі зачэпкі, але яна знайшлася. І паехала, і панеслося...

Інспіратары чарговай акцыі супраць сьпікера,— сапраўдныя раскрадальнікі дзяржавы, спачатку трохі прыціхнуць, а потым зноў займуцца звычайнай справай, бо ніякіх слушных прапаноў па недапушчэньню гэтай зьявы камісія ня ўнесла. С. Шушкевіч прыступіць да выкананьня сваіх абавязкаў і зойме звыклае крэсла старшыні. Наўрад ці хопіць у большасьці галасоў, каб адправіць яго ў адстаўку, але рэйтынг старшыні будзе прыкметна падарваны, бо нават калі яму пашанцуе адхіліць абвінавачваньні, давер да яго ў народзе будзе ўсё ж падарваны. Як кажуць, абставіны зьмякчаюць віну, але не расчараваньне.

Хто ў такім выпадку будзе самым папулярным з палітычных дзеячоў Беларусі? Што там паказваюць наконт гэтага далёкія зоркі? Можа, В. Кебіч — верагодны кандыдат на прэзідэнцкі пасад? Не, ён і раней ня быў безумоўным прэтэндэнтам, а зараз, калі ў дакладзе камісіі не забыты ўсе «заслугі» сваякоў старшыні і яго каманды, шанцы ў В. Кебіча вельмі малыя.

Г. Карпенка? Яшчэ ня вечар, як кажуць. Тады А. Лукашэнка? Праводзячы пэўныя паралелі з выбарамі ў Расеі, можна спрагназаваць і такі вынік. Вось толькі каб не адна дробязь — адсутнасьць самога прэзідэнцкага крэсла. І невядома, калі нашы заканатворцы яго створаць.

А што ж сёньня? Сёньня, як любіў казаць А. Бэндэр, паседжаньне працягваецца.

**І. ПРЫВАРОЦКІ.**

## Назіраючы за Лукашэнкам, бачу руку Кебіча

Назіраючы разьвіцьцё падзей на сэсіі Вярхоўнага Савета Беларусі і вакол яе ў сувязі з дакладам тав. Лукашэнкі і яго шматлікімі інтэрв 'ю, нельга не зьвярнуць увагі на некаторыя акалічнасьці.

Па-першае, са слоў самога Лукашэнкі, ён абнародаваў толькі мізэрную частку з вядомых яму фактаў аб карупцыі ў Беларусі, паказаўшы «... толькі вяршыню айсберга, пад якім насельніцтва, на Беларусі нават няма бізнэсу». У гэтых умовах выклікае асаблівую цікавасьць менавіта сьпецыфіка падбору інфармацыі для абнародаваньня. І тут раптам аказваецца, што ўсё, што было сказана Лукашэнкам, датычыла тых асобаў, якія ўжо альбо нежывыя, альбо звольнены са сваіх пасад, альбо былі ці знаходзяцца пад сьледствам. Гэта значыць тых, чыю сапраўдную дзейнасьць — нярэдка крымінальную — ужо ніяк не магчыма схаваць.

Па-другое, відавочна, што з-пад удару ўсяляк выводзіўся ўрад, і, у першую чаргу, такія яго члены, як тав. Кебіч ды тав. Касьцікаў. Так, пра Кебіча Лукашэнка стараўся ўвогуле не гаварыць, як быццам бы ён ня ведае, хто больш трох гадоў зьяўляецца старшынёй ураду, пры якім Беларусь стала адной з самых карумпаваных краін у сьвеце, а пра Касьцікава, які вушы замазаны ў розных непрыемных справах, заявіў, што гэта асоба супярэчлівая і што ва ўрадзе ён, як ніхто іншы, выконвае самую непрыемную працу.

Па-трэцяе, разам з сапраўды карумпаванымі, крымінальнымі асобамі, быццам бы незнарок, называліся імёны як сябраў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце (Заблоцкі, Маркевіч,), гэтак і проста больш-менш сумленных, нацыянальна сьвядомых дэпутатаў (Шушкевіч, Гілевіч).

Названыя абагуленыя факты дазваляюць выказаць меркаваньне, што спосаб падачы Лукашэнкам матэрыялу камісіі аб карупцыі ворганаў улады на Беларусі — гэта выкананьне сацыяльнага заказу (а, можа быць, і ня толькі сацыяльнага) праўрадавых колаў. Пры гэтым ставілася некалькі задачаў — адвярнуць увагу ад сапраўдных «акул» з каманды Кебіча; запэцкаць грызей, узятай ад іншых, дэпутатаў апазіцыі, сьпікера і нацыянальна сьвядомых дэпутатаў — усіх, хто не падабаецца Кебічу; утварыць новую палітычную фігуру нахрапістага, тыраннага тыпу (беларускага Вольфавіча) і, выкарыстоўваючы яе амбіцыйнасьць, маніпуляваць ёю, накіроўваючы на выкананьне рознай бруднай работы. Апошнія падзеі у Расеі паказалі, што ва ўмовах аслабленьня грамадства такая фігура можа быць вельмі эфектыўнай. Гэта тым больш небясьпечна, што ў нашага новага «непадкупнага барацьбіта з карупцыяй», відаць, цалкам адсутнічаюць сьціпласьць, сумленьне і нацыянальная сьвядомасьць.

Аналізуючы адбыўшыеся падзеі, і, у першую чаргу, рэакцыю большасьці грамадзян на іх, трэба адзначыць, што гэта новы раунд палітычнай барацьбы, у якой была выкарыстана новая зброя — Лукашэнка — за Кебічам.

Што трэба рабіць дэмакратычным сілам, каб не прайграць наступныя раунды?

На маю думку, трэба, па-першае, дамагчыся (хаця б праз суд), каб тав. Лукашэнка публічна прызнаў, што пакупка Гілевічам «Масквіча» за ўласныя грошы, упершыню і на 60-м годзе жыцьця — не зьяўляецца карупцыяй; што рамонт Шушкевічам помніка на магіле сваёй маці і за ўласныя грошы — не зьяўляецца карупцыяй; што пакупка Заблоцкім ужыванай замежнай легкавушкі за ўласныя грошы і па цане, ў некалькі разоў меньшай, чым цана новых «Жыгулёў» — не зьяўляецца карупцыяй; што тыя недахопы, якія можна знайсьці ў паперах культурна-асьветніцкага фонду «Бацькаўшчына» — ні ў якім разе не зьяўляюцца праявамі ці то карупцыі, ці то нейкай іншай крымінальшчыны; і гэтак далей. Пасьля усяго гэтага трэба дамагчыся публічнага прабачэньня з боку Лукашэнкі.

Трэба абавязкова дамагчыся, каб Лукашэнка публічна растлумачыў, з якой такой прычыны ён, замест таго, каб раскрыць народу пра сапраўдных «тлустых акул» з праўрадавых колаў, накраўшых сабе мільёны, ды ў валюце, пачынае пудрыць мазгі грамадзянам, распавядаючы пра Гілевічаўскага «Масквіча».

І, нарэшце, трэба дамагчыся, каб аб узяцці сваіх слоў адносна апазіцыі назад, аб прабачэньні і аб прычынах сакрыцьця сапраўдных фактаў ведала столькі ж народу, колькі зараз гаворыць, што «... усе яны там на Вярхоўным Савеце аднолькавыя».

Мне здаецца, што ў выпадку зьдзяйсьненьня апошняга кебічы могуць сапраўды аб многім пашкадаваць.

**А. АСТРОЎСКІ,**
**дацэнт ГДМІ.**




## За сябе скажам самі

**Днямі ў Горадні з 'арганізаваны аргкамітэт па стварэньню новай вэтэранскай арганізацыі. Пра мэты будучага грамадзкага аб 'яднаньня кар. «Пагоні» распавядае завадатар гэтай справы Вікенцій Якаўлевіч Жук.**

— Думка аб стварэньні альтэрнатыўнай вэтэранскай арганізацыі ў Горадні ўзьнікла даўно. Вельмі надакучыла адыёзная, пракамуністычная, намэнклятурная, раней створаная вэтэранская арганізацыя Горадні, якая ад імя усіх сталых людзей робіць разнастайныя антыдзяржаўныя і антынацыянальныя заявы. Таму, добра вывучыўшы склад гэтай арганізацыі, я прыйшоў да высновы, што ў сваёй большасьці яна складаецца з былых савецкіх і партыйных работнікаў, адстаўных вайскоўцаў і, акрамя сваіх уласных інтарэсаў, не прадстаўляе болей нікога.

**— Каго будзе прадстаўляць ваша аб 'яднаньне!**

— Найперш мы жадаем аб 'яднаць вакол сябе пажылых людзей, якія патрыятычна ставяцца да ўсяго беларускага, дзяржаўнага. Гэта першы крок. Затым, шляхам абароны сацыяльных правоў сталых людзей, мяркуем зьвярнуць увагу астатніх, каму абяцанкі вэтэранаў ад намэнклятуры нічога, акрамя шкоды, не прынесьлі.

**— Як вы зьбіраецеся зьдзейсьніць абарону сацыяльных правоў!**

— Будзем хадзіць па хатах, высьвятляць патрабаваньні пэнсіянэраў. Нейкую колькасьць самых звычайных патрабаваньняў, такіх, як схадзіць адзінокаму старому да крамы ці ў аптэку за лекамі, ці дапамагчы дабрацца да паліклінікі на прыём да лекара, выканаем сваімі сіламі. Больш складаныя пытаньні паспрабуем вырашыць праз сабесы, ЖЭСы, прадпрыемствы. Тут шырокае поле дзейнасьці. Плануем шукаць мэцэнатаў сярод камэрсантаў.

**— Вы зьбіраецеся рэгістраваць сваю суполку ці будзеце існаваць на грамадзкіх пачатках!**

— Безумоўна рэгістраваць. Зараз я распрацоўваю статут нашай арганізацыі. Думаю, што за аснову возьмуцца праграмныя дакумэнты раней створанай у Пінску альтэрнатыўнай вэтэранскай арганізацыі. Нядаўна ў Пінск мною быў дасланы ліст з просьбай даслаць дублікаты іхняй праграмы для магчымага скарыстаньня іх намі пры распрацоўцы аналягічных дакумэнтаў.

**— Гарадзенская альтэрнатыўная вэтэранская суполка будзе нагадваць адзін да аднаго пінскую арганізацыю!**

— Ня думаю, бо этнічны склад сталага насельніцтва Гарадзеншчыны значна розьніцца ад Піншчыны. Вось прыклад: у Пінску тры асноўныя групы — беларусы, расейцы, украінцы. У нас жа да гэтага неабходна дадаць палякаў, татараў, летувісаў. Да таго ж, пінчукі на першае месца ставяць сацыяльную абарону, а мы, як я згадаў раней, найперш думаем пра патрыятызм. Увогуле спабарнічаць з роднаснай арганізацыяй не зьбіраемся, а наадварот, спадзяёмся на супрацоўніцтва.

**— Якія могуць быць стасункі з існуючай вэтэранскай арганізацыяй!**

— Ніякіх. Азінае, аб чым мы можам папрасіць нашых апанэнтаў — не рабіць болей заяў ад усіх вэтэранаў цалкам. За сябе мы самастойна скажам і што трэба — вызначым.

**Гутарыў Г. АСТРОЎСКІ.**





# ГРАМАДЗТВА

## Я пакідаю гэтую краіну, спадзяюся, што назаўжды

**У № 8 газэты «Пагоня» распавяла чытачам пра разгон мірнай маладзёжнай дэманстрацыі ўладай камуністых летам 1972 г. у Горадні. Як жа склаўся лёс тых, хто пагрэбаўшы ўласнай кар´ерай сьмела выйшаў сказаць свае «не» таталітарнаму рэжыму!**

**Пра свой жыцьцёвы шлях расказвае ўдзельнік тых падзей гарадзенец Генадзь Шокін.**

Жыць было пад наглядам цяжка. Спадзявацца на рост па службовай лесьвіцы было таксама сьмешна. Таму я прымаў жыцьцё такім, як яно ёсьць. Праца кінамеханіка на перасоўцы з дыплёмам кінаінжынера — гэта канечне не манна нябесная, але на жыцьцё хапала. Марыць пра асабістае жытло было дарэмнай ілюзіяй. Радавала тое, што побач ёсьць сябры аднадумцы і што зерне, кінутае намі, узыходзіла вялікай, сакавітай нівай. Грамадзтва абуджалася. Таму не без падстаў лічу, што вялізарная апрацоўка людзкіх мазгоў у апошні перыяд праўленьня гэнсека Л. Брэжнева ідэалягічнымі службамі партыі — гэта рэакцыя правячай клікі на перамены ў грамадзтве. Існавась, нават ня жыць, пад такім прэсам вольнаму чалавеку немагчыма. Мне прыходзілі лісты з прапановамі пакінуць гэтую краіну. Сябры абяцалі падмогу, маральную і прававую падтрымку. Ехаць у замежныя краіны я адмаўляўся, — ведаеш, была ўпэўненасьць, што нешта зможа перайначыцца. Камусьці можа маё выслоўе падацца як вера ў перабудову партыі, павер´я, прачытаўшы рэтапрынтарны варыянт кнігі Амазіка «Ці праіснуе СССР да 84 года», у камунізм ня верыў. Проста не жадаў пакідаць Радзіму, якая з ўсіх бакоў была абілгана, зьняважана. Мне было сорамна перад замежнымі турыстамі, калі чуў іх кпіны з нашай рэчаіснасьці. Часам ня вытрываўшы, казаў ім, што гэта часова, што прыйдзе час і сістэма зьнішчэньня, зьнявагі асобы, народа ў цэлым зьнікне. На мяне ўсе глядзелі як на дзівака: маўляў,— ён супраць развітога сацыялізму і лініі партыі. Павер, я адчуваў сябе як у вакууме.

Асабліва мая адзінота адчулася, калі Горадню пакінуў адзін з удзельнікаў тых дзён Фіма Ройзман. Ён пасяліўся на зямлі абяцанай і адтуль у лістах пасьмейваўся з мяне.

Аўганская вайна на нейкі час і мяне выбіла з каляіны. Быў момант, калі я пакаваў валізкі, але нешта наноў стрымала. Перабудова і іншыя выбрыкі камуністых толькі сьмяшылі. Калі ж беларускі парлямэнт выбраў і прагаласаваў за курс на сувэрэнітэт — зьявілася надзея. На жаль, шчасьлівыя надзеі зноўку растапталі тыя, каму без імпэрыі жыцьцё не ўяўляецца магчымым. Іхнія спэкуляцыі на першасных фізычных патрабаваньнях чалавека, наўмыснае нежаданьне стварыць новае, альтэрнатыўнае, давялі грамадзтва да вядомых вынікаў. Дзякуючы іхняй абыякавасьці й варожасьці я, як і многія іншыя, апынуўся без працы.

Дарэчы, мой выпадак увогуле выключны. Працуючы на перасоўках, даўно зразумеў, што Савецкае кіно з даяркамі і газавікамі Сібіры нікога не цікавіць. Каб мець плян і аўдыторыю,распачаў у нашым Гарадзенскім кінематографе новае — стварыў відэаклюб. Начальству самадзейнасьць прыйшлася не даспадобы. І праз пэўны час мяне скарацілі па прафэсійнай неадпаведнасьці. Спрачацца я не жадаў і дзесьці каля года быў без працы, зарабляючы на жыцьцё шляхам гандлёвага турызму.

Стоячы за гандлёвымі шэрагамі замежных торжышчаў многае перадумаў і аднойчы зразумеў, што ўсе навокал людзі вольныя птушкі,якія не задратавалі свае душы ў клеткі. Яны пьюць, ядуць, кахаюцца гэтак жа вольна, як і прадаюць свае тавары на рынку. Трымацца бязконца за свае ідэалы на гэтым пярэстым фоне сьмешна,і я падаўся спакусе — пачаў рыхтавацца да развітаньня з Радзімай. Неяк адразу мне адкрыўся сьвет, што жыцьцё адно, і пражыць яго двойчы нельга. Напісаў ліст да свайго даўняга сябра ў Амэрыку. Нядаўна атрымаў запрашэньне. Зараз фактычна падрыхтаваў усе неабходныя дакумэнты на эміграцыю. Днямі зьбіраюся ад´ехаць да Філядэльфіі. Спадзяюся, што свой шанец не змарную. Заставацца ж у краіне, дзе вярхоўная ўлада выступае супраць прынятых ёй жа законаў абсурдна і бязсэнсоўна.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Ці доўга быць іншаземцамі на сваёй зямлі?

Як толькі Беларусь абвесьціла аб сваёй незалежнасьці, то аказалася, што ў нас шмат нядобразычліўцаў таго, каб беларусы ўзьняліся з каленаў, што і паверыць цяжка. Тут вам і розныя славянскія саборы і саюзы афіцэраў, і ўсе яны гавораць пра парушэньні палажэньняў Усеагульнай дэкляраціі правоў чалавека. А вось тое, што парушаюцца правы беларусаў, якія жывуць на сваёй зямлі, у сваім нацыянальным доме, мала хто заўважае. Напрыклад, чаму мы, заходзячы кожны дзень у крамы, павінны чытаць назвы тавару на каштоўніках на чужой мове, чаму крамніца не адкажа вам па-беларуску, калі вы зьвернецеся да яе на сваёй мове?

Даўно вядома, што самыя зацьцятыя працаўнікі беларускае мовы сустракаюцца сярод саміх беларусаў.

На маю думку гэта тлумачыцца тым, што беларусаў доўга пераконвалі ў тым, што яны ніколі ня мелі сваёй дзяржаўнасьці, што беларуская мова гэта мова толькі сялянаў, што размаўляць на сваёй мове— гэта значыць быць буржуазным нацыяналістам, што ўтварыўся савецкі народ, які размаўляе на расейскай мове. І такім чынам, значная частка беларусаў паддалася гэтай прапагандзе і пачала карыстацца расейскай мовай, забыўшыся пра сваю. Зараз, каб неяк апраўдаць гэтую здраду і, нежадаючы пачаць вывучаць беларускую мову, яны рашуча выступаюць супраць яе.

Дык калі ж мы дачакаемся таго, каб тая ж крамніца зразумела, што яна належыць да народа, якому досыць ужо стаяць на каленях і напіша назву тавара на сваёй мове?

**Алесь СТУПЕНЬ,**
**сябра Саюза мастакоў Беларусі.**

## Словы аб высакароднасьці не аргумэнт растоўскаму рэкэту

**Гандлёвы турызм даўно ўзбуджае вакол сябе шмат размоў. Менавіта ён прыносіць прыбытак тым, хто, ня гледзячы на разнастайныя складанасьці часу, здабывае сродкі на існаваньне. Разам з гэтым турызм змог нарадзіць іншую групу жадаючых пажывіцца за чужы кошт.**

**Пра тое, як гарадзенскую турыстычную групу ВВА Беларускага таварыства сьляпых абрабаваў у Польшчы растоўскі рэкэт, расказвае ахвяра гэтай чорнай справы А. Століч.**

Адразу ж за польскім горадам Плоцк да гарадзенскага турыстычнага аўтобуса, які вёз на Радзіму групу турыстаў, прыладзіўся мэрсэдэс. Тойсёй з пасажыраў дзівіўся, чаму гэты шыкоўны лімузін не абганяе «Ікарус». Чакаць абгону доўга не давялося. Як толькі згусьціўся сумерак, мэрсэдэс адным рыўком прафэсійна падрэзаў «Ікарус» і вадзіцелю, каб пазьбегнуць аварыі, прыйшлося рэзка затармазіць.

З мэрсэдэса выскачылі чацьвёра дужых хлапцоў і, пагражаючы аўтаматам, уварваліся ў салон аўтобуса. Той, што быў з аўтаматам, запрапанаваў разьлічыцца палюбоўна — заплаціць па 100 даляраў з пасажыра. Гарамыкітурысты ў адзін голас пачалі ўсчуваць рэкэтыраў: маўляў, мы інваліды, што ад нас, пакрыўджаных лёсам людзей, трэба патрабаваць.

Міласэрднасьць растоўцы выказваць не пажадалі. А найбольш спрактыкаваны з іх бандыт з размаху нанёс удар нажом у жывот аднаму з пасажыраў. Сталёвы аргумэнт рэкэціра паўзьдзейнічаў моцна. Бедалагі пачалі расчыняць свае торбы, даставаць з іх грошы. Убачыўшы «зялёненьнія», рэкэціры зусім азьвярэлі, кінуліся ўздоўж салона і пачалі вырываць у турыстаў амаль усё. Забіралі больш модныя рэчы, магнітафоны, грошы. Там, дзе, на погляд рабаўнікоў, справа йшла марудна — ў ход пусканіся кулакі, гумовыя дубінкі.

На рабаваньне 40 турыстаў у рэкэціраў пайшло прыкладна 5—6 хвілінаў. Зрабіўшы сваю справу, яны ад´ехалі тым жа мэрсэдэсам. Калі гарадзенцы апрытомнелі ад нечаканага нападу, падлічылі свае страты, то высьветлілася, што з аўтобуса растоўскі рэкэт узяў даніну ў пераліку на разьліковыя білеты нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь больш як на 4 мільёны. Да таго ж, двум турыстам патрабавалася тэрміновая мэдыцынская дапамога.

Пасьля таго, як параненыя бандытамі турысты былі адвезеныя ў шпіталь, кіраўнік групы пайшоў на пастарунак. На жаль, добрых вестак адтуль ён не прынёс. Ад дзяжурнага на пастарунку паліцыянта кіраўнік высьветліў, што на ўзроўні ураду дзяржаў няма ніякіх пагадненьняў, каб польскія міліцыянты ахоўвалі беларускіх турыстаў. Хоць польскі бок не аднойчы прапаноўваў нашай краіне заключыць такія дамовы.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Студэнткі вымушаны скакаць праз вокны, выкладчыкі — чытаць лекцыі шэптам, затое...

Аднаго дня гараджане, якія праходзілі па вуліцы Леніна каля дома нумар 28, спыняліся і са дзьдзіўленьнем пазіралі на будынак аўташколы.

З вакна паміж першым і другім паверхамі з віскам выскоквалі дзяўчаты, а ўнізе іх не без задавальненьня лавіў у абдымкі малады чалавек. Дарэчы, гледзячы на разгубленыя твары дзяўчат, іх пасьпешлівасьць і нават напалоханасьць, здавалася, што ў гэтым памяшканьні зьявіўся ці прывід, ці які-небудзь маньяк, а дзяўчаты — яго бязьвінныя ахвяры. А убачыўшы яшчэ і барадатага мужчыну ў чорным балахоне, які апошнім выскокваў з вакна, некаторыя, мабыць, менавіта так і падумалі.

Але яны жорстка памыліліся. Гэта быў зусім не маньяк, а дзяўчаты — зусім не ахвяры, а, як ня дзіўна, студэнткі трэйцяга курса факультэта беларускай філялёгіі і культуры. Думаеце, жарты? Не. Такім чынам вымушаны былі пакідаць яны сьцены роднай альма-матэр, бо дзьверы аказаліся зачыненымі.

Дарэчы, студэнткі трэйцяга курса былі не апошнімі ў гэтай гісторыіі. Іх мужны ўчынак вымушаны былі паўтарыць і студэнты іншых курсаў.

Да ўсяго сказанага трэба яшчэ дадаць, што сам габінэт, у якім праводзяцца заняткі, вельмі няўтульны, асьвятленьне ў ім слабое, з асклепістымі вокнамі, ды яшчэ ў аўдыторыі стаяць станкі. Акрамя гэтага, увесь час зьвініць тэлефон, бясперапынна заходзяць і выходзяць нейкія людзі.

Але і гэта яшчэ ня ўсё. Тым, каму пашанцавала займацца ў ранейшым доме палітасьветы, таксама не пазайздросьціш. Даволі часта заняткі праводзяцца ў актавай зале, прычым займаюцца адначасова па чатыры групы ў розных кутках залы і яшчэ па дзьве на бальконе. Чытаць лекцыі выкладчыкам часам даводзіцца амаль шэптам быццам бы па сакрэту, дзеля таго, каб не перашкаджаць іншым. А ў гэты самы час чацьвёрты паверх займае камэрцыйная фірма, якая ўзьнікла яшчэ тады, калі безраздзельна панавала КПСС і разьмясьцілася пад яе крылом у Доме палітасьветы, які належаў абкаму КПБ — КПСС.

Хочам запытацца ва ўсіх начальнікаў — унівэрсітэцкіх, вабласных і гарадзкіх: да якога часу будзе працягвацца гэты зьдзек з выкладчыкаў і студэнтаў беларускага факультэта?

**А. КРЫШЫН,**
**В. ГАЎРЫЛІК,**
**Н. МЕХ,**
**усяго 9 подпісаў.**

**Р. S.: Удзячныя студэнткі трэйцяга курса другой групы просяць сімпатычнага маладога чалавека зьвярнуцца да іх за падзякай за самаахвярны ўчынак.**

## Хітрыкі ПКБ

ПКБ — Партыя Камуністых Беларусі, так цяпер называецца беларускі атрад тых, хто мроіць догмамі развітога сацыялізму. Відаць таму пэкэбоўцы й распаўсюдзілі ўлёткі, у якіх заклікаюць на будучых выбарах галасаваць за іх,— камуністаў. А каб народ добра не разабраўся, што па чым, ПэКаБэ выступае ў «Народном движении Белоруссии»? Што ж гэта такое, «Народное движение Белоруссии»? Гэта саюз пракамуністычных арганізацый з рознымі назвамі, каб чалавек ня мог добра разабрацца і думаў, што гэта арганізацыя ня камуністычная, а іншая, што нібыта яна хоча абараняць інтарэсы людзей. На самой справе ўсе яны стаяць на камуністычнай платформе і абараняюць інтарэсы не народа, а КПСС і яе намэнклятуры.

Якая ж тут справядлівасьць, калі партыйная намэнклятура карысталася сьпэцыяльнымі крамамі, клінікамі, шпіталямі, санаторыямі. А цяпер, згубіўшы ўсе прывелеі, успомніла пра справядлівасьць. Але народ не ўвядзеш у зман, ён добра ведае, хто чым дыхае.

**В. ЖУК.**

**Ганарар прашу перавесьці ў фонд «Пагоні».**

## Насі ватоўку ды й гандлюй дамкратамі...

У складаным становішчы апынуліся рабочыя цэха тэхаснасткі Гарадзенскага завода такарных патронаў, што месьціцца на вуліцы Суворава. Яны працуюць у памяшканьні, тэмпература паветра ў якім не вышэй, чым на вуліцы. Гэта вымушае іх працаваць у ватоўках, што ня толькі ня зручна, але недапушчальна з пункту гледжаньня тэхнікі бясьпекі. Прычына — у прадпрыемстве няма грошай, каб заплаціць за ацяпленьне. У той жа час склады перапоўненыя гатовай прадукцыяй: адных дамкратаў там на суму каля мільярда рублёў. Але яны не знаходзяць попыту ў пакупнікоў. Да таго ж узьнікае праблема аплаты заробку. А крэдыт у банку ўжо не даюць. Таму рабочым прапанавана ў якасьці зарплаты браць гатовую прадукцыю.

**А. Д.**

# *ПАДАРОЖЖЫ*

Ала БІБІКАВА

# Люблю цябе, жоўтая Дзукская восень!

**Я вярнулася! Вярнулася! Я думала аб табе ўвесь гэты год. Успамінала тваю пяшчотнасьць, тваё непаўторнае хараство, твае блакітныя вочы-азёры, нетаропкі, разьмераны рытм жыцьця, гаючыя воды й паветра, напоенае хвояй і вольнадумствам.**

**Мы зноўку разам — ты і я. Я аддаю сябе ў твой салодкі палон і растваруюся ў шчымліва-трапяткім прадчуваньні шчасьця.**

**Дзень добры, Друскенікі! Дзень добры, жоўтая дзукская восень!**



## «Я павяду цябе ў музэй»,—

сказала мне прыгожая Анжэлка з Вільні і на правах гаспадыні павяла на экскурсію. Я не працівілася, хаця ведала кожны куточак Друскенікаў як свае пяць пальцаў.

У восеньскім карагодзе кружылася лістота, пахла яблыкамі і хвояй. З касьцёла даносіліся чароўныя гукі аргана. У акуратненькай блакітнай драўлянай царкве ялася служба. Патаналі ў хрызантэмах выпеставаныя дворыкі арыгінальных дамоў. З кавярняў смачна пахла кавай і піцай. Над будынкамі трапяталі жоўта-чырвона-зялёныя сьцягі. Па вуліцах гулялі людзі — безклапотныя, шчасьлівыя твары напачатку выклікалі непаразуменьне.

Пераканаўшыся, што ўсё як і раней, і ўдосталь нацешыўшыся любімымі дрэвамі, алеямі, чародкай лебедзяў на возеры, крыніцай прыгажосьці, мы крочылі туды, дзе, па словах Анжэлы, за год зьмянілася многае. У краму.

За вітрынным шклом — мяса ўсіх гатункаў, фарш, птушка, сасіскі, разнастайная шынка, вяндліны, вэнджаная і сьвежая рыба, бляшанкі з ікрой, шпротамі, нязьлічоная колькасьць сыроў і сыркоў... А шакаладу, цукерак!

— Дзіўна, што тут усё ёсьць, аніякіх чэргаў няма...

— У нас у Летуве крамы цяпер болей падобныя да музэяў: сюды ходзім паўзірацца, а купляем усё на торжышчах, там таньней,— тлумачыць Анжэла,— як у Польшчы.

— А на торжышчах адкуль прадукты?

— Ды ад вас, з Беларусі. Вашыя людзі «завалілі» мясам, птушкай, маслам, сьмятанай усе рынкі Летувы.

— ?!

... Ох ужо гэты беларускі інтэрнацыяналізм! Самі не зьямо — а суседу прадамо. «Зялёненькія» у кішэню пакладзём і закрычым: «Голад! Няма масла! Няма мяса! Няма сыру!..»

Увечары, пасьля экскурсіі па крамах, пасьля першых працэдураў я бясконца лаўлю сябе на думцы, што за год Летува зрабіла значны крок наперад. Ва ўсім.

Нават ня верыцца, што яшчэ два гады таму незалежная дзяржава была адной з пятнаццаці рэспублік-сясьцёр.

Справа нават ня ў поўным дастатку ў крамах, а ў нейкай заходняй цывілізаванасьці, сацыяльнай актыўнасьці, разьняволенасьці людзей, імкненьні крочыць толькі наперад, без ваганьняў, не шкадуючы пра дзень учарашні.

■

Сёлета гасьцінныя Друскенікі прымаюць гасьцей з усяго сьвету. Аднолькава камфортна адчуваюць сябе тут беларусы, расейцы, палякі. Праўда, пры ўмове, што ёсьць даляры, маркі, франкі, злотыя альбо расейскія рублі, якія можна памяняць у мяняльных канторах на літы. Нашыя грошы валютай не лічацца й афіцыйнаму абмену не падлягаюць (на торжышчы, праўда, бяруць і іх).

У нашым санаторыі «Вільнюс», як, дарэчы, і ў іншых, большасьць адпачываючых — палякі з суседняй РП. Паводлі лёсу я трапіла ў «польскі» корпус і, з цяжкасьцю пераадольваючы моўны бар'ер, дваццаць чатыры дні жыла ў польскім асяродку. Таму большасьць маіх уражаньняў аб адпачынку ў Летуве зьвязаныя менавіта з палякамі. І таму цяпер я з такім трапятаньнем штодзень падыходжу да паштовай скрынкі. Чакаю лістоў з Варшавы, Гданьску, Гжэшува...

## Як мне ўпершыню давялося пашкадаваць, што ня ведаю замежных моў

— Пані ведае ангельскую мову? Нямецкую? Французкую? А можа, гішпанскую?

Я чырванею, як рак, і імкнуся хоць неяк, на трасянцы (слова польскае — два беларускіх) падтрымліваць гамонку. Тлумачу, што нізкі ўзровень адукацыі ў школах і ВНУ.

— Дык тады ж якую мову, акрамя беларускай, вы ведаеце?

— Расейскую...

— Как вас зовут? — пытаюся падчас шпацыра ў сімпатычнага мужчыны з Польшчы.

— Электронік! — не задумваючыся, адказвае ён і зусім не разумее, чаму мой твар мяняецца ад зьдзіўленьня.

— Электронік?! — перапытваю, успамінаючы любімы фільм свайго дзяцінства.

Пан вельмі дрэнна разумее мяне, я — яго, але з дапамогай жэстаў неяк тлумачымся.

— Прывітаньне, Войтэк! — зьвяртаецца да майго субяседніка знаёмы Юзэк.

— Войтэк? А мне сказаў, што яго завуць Электронікам,— выкрываю падман маладога чалавека.

Юзэк сьмяецца так шчыра і заўзята, што ўсьлед за ім пачынаем рагатаць і мы, зусім не разумеючы, ў чым справа.

— «Завуд» — па-польску азначае прафэсію, спэцыяльнасьць,— тлумачыць ён, і Войтэк сапраўды электронік. Нават трымае ўласную краму па продажу электронікі. Наш сьмех яшчэ доўга-доўга разносіцца па галоўнай курортнай вуліцы.

І на пытаньні «Над кім сьмяёцеся?» — мы адказваем: «Над сабой».

■

На твары шасьцідзесяціпяцігадовай Даніэлы Агапсовіч з Канады маршчынкі адбілі прыемную ўсьмешку. Нават калі яна разважае пра сур'ёзныя рэчы, здаецца, што ўсьмешка ўсёроўна асьвятляе ўсю яе істоту. З першых хвілін мяне ўражвала гэта.

Пазнаёміліся мы выпадкова. Яе немагчыма было не вылучыць з усіх адпачываючых. Яна не хадзіла — пырхала, бы птушка. І не глядзела вакол сябе — углядвалася дасьціпным позіркам. Аднойчы мы выйшлі разам з залы лячэбнай гімнастыкі (Даніэла, у адрозьненьні ад мяне, ні разу не прапусьціла заняткі па фізкультуры). І я зразумела, што лёс даў мне шанц. Але пачуўшы з вуснаў Даніэлы ангельскую мову, ледзь не заплакала. Ішла й праклінала сваю універсітэцкую «пяцёрку», бо з усёй размовы зразумела толькі адзін-другі дзесятак слоў.

На шчасьце, жанчына атрымала адукацыю не ў Саюзе і ведала яшчэ некалькі моваў, у тым ліку й сваю родную — польскую, (якая й дала магчымасьць нам зразумець адна другую).

І я мела шчасьце дазнацца пра няпросты лёс вывезенай падчас вайны польскай дзяўчыны, пра яе дарогі і універсітэты, сям'ю, яе ўзыходжаньне й станаўленьне як асобы й мастачкі. Пра выставы, на якіх творы Даніэлы заўсёды маюць вялікі посьпех, пра цудоўную майстэрню, дзе стварающца шэдэўры, пра планы й задумкі. А гаоўнае — пра мясьціны, якія найбольш западаюць у сэрца і натхняюць на працу.

На палотнах мастачкі — экзатычныя пэйзажы Гаваяў, Фларыды, Мэксікі, Гішпаніі. Цяпер будзе восеньская Летува з яе драўляным рамяством, барвова-жоўтымі клёнамі й павольным Нёманам... Старыя могілкі й руіны старажытнага замчышча. Я бачыла эцюды ў альбоме і ўпэўнена, што Даніэла, калі будзе працаваць над летувіскімі пэйзажамі, адчуе цяпло тых дзён, тых людзей, якія яе зразумелі й палюбілі.

— Даніэла, а дзе ваша радзіма: мястэчка пад Люддзю, дзе на старых могілках пахаваны ўсе продкі, ці Канада, дзе пражылі ўсё жацьцё, дзе атрымалі прызнаньне, дзе нарадзіліся дзеці, унукі?

— Гэта для мяне вельмі складанае пытаньне. Безумоўна, Радзіму, як і бацькоў, не выбіраюць: у маім сэрцы заўсёдная туга па Польшчы. У Лодзі жыве мая родная сястра, у якой я вельмі часта бываю. Дарэчы, у Друскенікі я трапіла дзякуючы ёй, мы тут разам. Але зьмяніць жыцьцё ў Канадзе на жыцьцё ў Польшчы я ўжо не змагу. Гэта непараўнальна. Асабліва ў сэньсе рэалізацыі творчых магчымасьцяў.

— Што вас больш за ўсё ўражвае ў Польшчы, ў Летуве?

— І ў Польщчы, і тут, у Летуве, яшчэ вельмі цяжкае жыцьцё. Трэба быць моцным, каб выстаяць і не ўпасьці ў багну.

— Пані Даніэла, вы польска і вельмі ганарыцеся гэтым. Там, у Канадзе, вы таксама адчуваеце сябе полькай?

— Безумоўна! У нас вядзецца такая нацыянальная палітыка, якая дазваляе кожнай нацыі не страчваць свае карані, а наадварот, разьвівацца поруч з іншымі.

У нашай правінцыі Квэбэк вельмі шмат эмігрантаў. Мы адчынілі мультыэтнічны музэй, дзе прадстаўлены розныя нацыянальныя культуры: расейская, польская, швэдзкая, чэская, украінская, вугорская, летувіская, румынская.

— А беларуская?

— На жаль, беларускай няма. Але абавязкова зьявіцца. У гэтым музэі мы ладзім выставы, зьбіраемся на вечарыны. І ніколі у нас не ўзьнікае нацыянальных канфліктаў. Выхаваны, інтэлегэнтны чалавек ня будзе ганьбіць іншага толькі за тое, што ён гаворыць на іншай мове і моліцца ў іншым храме.

На разьвітаньне мы шмат фатаграфаваліся.

**(Заканчэньне будзе).**

**Фатаграфаваў Б. МЕШЧАРАКОЎ.**

